# АДГАЛОСКІ

## НА РОДНЫХ МЯСЦІНАХ

У складзе дзяржаўнай дэлегацыі Беларускай ССР, якая прыбыла ў Польшчу на святкаванне 41-ай гадавіны з дня падпісання Дагавору аб дружбе і супрацоўніцтве нашай краіны з СССР і ў сувязі з адкрыццём у ГП ТППР у Варшаве выстаўкі „Эканоміка, тэхніка і навука“, знаходзіліся Таццяна Прытыцкая і Іраіда Царук — жонка і сястра Сяргея Прытыцкага, славутага рэвалюцыянера і дзеяча КПЗБ. Як вядома, Сяргей Прытыцкі ў часе II сусветнай вайны дзейнічаў у радах Савецкай Арміі, быў начальнікам Польскага штаба партызанскага руху, а пасля вызвалення быў I сакратаром абкомаў КПЗБ у Гродна, Баранавічах, Маладэчне і Мінску. Гэта ён стаў пазней Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР і намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета СССР.

Таццяна Прытыцкая і Іраіда Царук з'яўляюцца навуковымі супрацоўнікамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна ў Мінску. 22 красавіка г.г. наведалі яны Беласточчыну. Пабывалі: у Саколцы — на заводзе сталярна-будаўнічых вырабаў „Стольбуд“ імя Сяргея Прытыцкага, дзе ёсць пакой яго памяці, там сустрэліся з рабочымі прадпрыемства; у Гаркавічах — у клубе „Рух“, у якім таксама ёсць пакой памяці Сяргея Прытыцкага, дзе сустрэліся яны з жыхарамі вёскі; у Беластоку — у памяшканні Ваяводскага праўлення ТППР з удзелам яго старшыні, сакратара ВК ПАРП Мікалая Казака, дзе былі на вечарыне, прысвечанай дружбе і супрацоўніцтву ПНР і СССР, у час якой з дакладам выступіў Мікалай Гапунік — старшыня ТППРаўскай камісіі выпускнікоў савецкіх вышэйшых школ. Шмат гаварылася на гэтай сустрэчы аб прыгранічным абмене паміж Гродзенскай вобласцю і Беластоцкім ваяводствам.

*

Жыхары Гаркавіч ганарацца сваімі слаўнымі аднавяскоўцамі — Сяргеем Прытыцкім (на жаль, ён ужо не жыве) і яго сястрой Іраідай Царук, былой Іраідай Прытыцкай. Іраіда жыла да 11 год у Гаркавічах. У 1939 годзе брат Сяргей забраў яе з сабою ў Беласток, а ў час вайны выехала ў глыб Савецкага Саюза.

Сёння Іраіда Восіпаўна Царук — прафесар гістарычных навук, ужо 13 год яна дэкан гістарычнага факультэта Мінскага універсітэта. Яна — аўтар многіх навуковых прац. Большасць іх звязана з сацыяльнымі, эканамічнымі і культурнымі пераўтварэннямі заходніх абласцей Беларусі пасля 1939 года. Ёсць у іх і пра Беласточчыну.

Тым, што вывучаюць гісторыю Беларусі, цяжка абыйсціся без такой кніжкі, як падручнік па гісторыі БССР — пяцітомная „Гісторыя БССР“. Сярод яе аўтараў знаходзім таксама імя Іраіды Царук.

„У дакладзе на 400-годдзе Вільнюскага універсітэта І. Царук прасачыла, які ўклад у развіццё культуры беларускага народа зрабіў гэты адзін са старэйшых у Еўропе цэнтраў навукі і хто з нашых землякоў, яго выхаванкаў, творча садзейнічаў славе універсітэта ў мінулым стагоддзі. Называла забытыя імёны, раскрывала творчыя лёсы, а сама думала: няправільна рабілі некаторыя гісторыкі, калі паказвалі беларусаў у мінулым толькі цёмнымі ды забітымі. Няхай сабе і сялянскія дзеці паступалі некалі ў славуты Віленскі універсітэт, але многія з тых, хто яго канчаў, служылі потым усяму народу. Забываць нам пра іх нельга“. Так пісаў часопіс „Работніца і сялянка“ ў сакавіцкім нумары за 1980 год у артыкуле „На скрыжаваннях лёсу“, прысвечаным Іраідзе Царук.

**Міхась Хмялеўскі**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## ДРУГАЯ ЧАРГА ЗАВОДА

Выпускаць прадукцыю пачала другая чарга Маладзечанскага завода парашковай металургіі.

Гэта фактычна новае высокамеханізаванае прадпрыемства магутнасцю дзве тысячы тон розных вырабаў у год. Першыя вырабленыя тут дэталі — асабліва трывалыя фракцыйныя дыскі для харкаўскіх, чэбаксарскіх і мінскіх трактароў. У хуткім часе іх выпуск будзе наладжаны і для гомельскіх камбайнаў.

Прасуючы, а затым абпальваючы пры высокіх тэмпературах розныя металічныя парашкі, спецыялісты ператвараюць іх у звышцвёрдыя вырабы для машынабудавання, якія не патрабуюць дадатковай апрацоўкі. Прычым, у адрозненне ад традыцыйнай металургіі, на іх выраб зыходнага матэрыялу ідзе роўна столькі, колькі важыць гатовая прадукцыя. Ёсць у новага метаду і іншыя немалаважныя перавагі — працаёмкасць такога працэсу, напрыклад, ніжэй у тры-чатыры, а сабекошту ў два-тры разы.

Новыя цэхі маладзечанскага завода дапамогуць вучоным наладзіць выпуск кампазіцыйных матэрыялаў — незлучаемых у звычайных умовах металаў, металаў з неметаламі, іншых сплаваў, у якіх асабліва вострую патрэбу маюць галіны індустрыі, якія інтэнсіўна развіваюцца.

Падлічана, што, выйшаўшы на поўную магутнасць, а гэта дзесяць тысяч тон вырабаў штогод, маладзечанскі завод акупіць сябе ў рэкордна кароткі тэрмін — прыкладна праз паўтара года.

## ПЕРШАЯ КНІГА ПРА СЯРГЕЯ ЯСЕНІНА

Пра Сяргея Ясеніна напісана многа. Але цікава, што першую кнігу, прысвечаную творчасці паэта, выпусціла амаль шэсцьдзесят год назад гомельскае кааператыўнае выдавецтва на фабрыцы, якая цяпер называецца „Палесдрук“.

На вокладцы — рэдкі партрэт паэта і словы „Сяргей Ясенін“. Гэты здымак у авале другі раз друкуецца толькі ў выданні 1946 года, якое падрыхтавала жонка Ясеніна С. Талстая. Кніга была надрукавана на добрай паперы, тыражом тры тысячы экземпляраў — даволі значным для таго часу. Аўтар Г. Лялевіч, паэтычныя кнігі якога „Голад“ і „Набат“ таксама выходзілі ў Гомелі, дае ў асноўным правільную ацэнку творчасці песняра рускай прыроды.

Адзін з экземпляраў кнігі захоўваецца ў асабістай бібліятэцы машыніста-кампрэсаршчыка гомельскага вытворчага аб'яднання „Праца“ В. Фрыдмана. Гэтага выдання пакуль не мае нават Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У. І. Леніна — буйнейшае кнігасховішча краіны.

## СПОРТ

■ Жаночая і мужчынская каманды Беларусі па спартыўнай гімнастыцы ўпэўнена выступілі ў розыгрышы Кубка СССР. Мужчыны занялі другое месца.

У практыкаваннях на паасобных снарадах вызначаліся мінчанін Юрый Балабанаў і Святлана Лебядзінская з Гродна. Святлана першынствавала на бервяне, а Юрый — на кольцах.

■ У фінальнай сустрэчы Украіна- Беларусь ішла спрэчка за Кубак СССР па барацьбе дзюдо сярод жанчын. З нявялікай перавагай — 4:3 — Кубак СССР дастаўся ўкраінскім спартсменкам.

■ Савецкія веласіпедысты, якія ўдзельнічалі ў шматдзённай гонцы па Ніжняй Саксоніі ў ФРГ, перамаглі і ў камандным, і ў асабістым заліку. Ганаровае пятае месца заняў дэбютант зборнай СССР Ігар Сумнікаў з Оршы.

■ У Маскве закончыліся папярэднія гульні розыгрышу Кубка СССР па хакею на траве для жаночых каманд. Гродзенскі „Рытм“ атрымаў тры перамогі, адзін матч звёў унічыю і яшчэ ў адным прайграў. У выніку тры каманды — маскоўскія клубы „Крылы Саветаў“ і „Спартак“, а таксама „Рытм“ набралі аднолькавую колькасць ачкоў — па сем. Але розніца мячоў у гродзенскіх спартсменак аказалася горшай, яны выбылі з розыгрышу.

■ З лікам 30:23 у Каўнасе спартсменкі Беларускага політэхнічнага інстытута выйгралі ў заключным матчы пятага тура першынства СССР па гандболу сярод жаночых каманд першай лігі ў ленінградскай „Планеты“. Мінскія гандбалісты — лідэры турніра і ў апошняй сустрэчы прадэманстравалі гульню высокага класа і заслужана перамаглі.

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

## „СУПЕРГЕРОЙ“ ПЕНТАГОНА

Галівудская кінастужка аб удзельніку ваеннай авантуры ЗША ў Паўднёва-Усходняй Азіі з войск спецыяльнага прызначэння „берэты“ Рэмба была, як вядома, заказана Пентагонам. Прафесіянальны галаварэз, які ніколі ні над чым не задумоўваецца, вымаўляе не больш 60 слоў на працягу ўсяго фільма, бязлітасна і метадычна забівае шматлікіх ворагаў Амерыкі.

Пентагонаўскім генералам спатрэбіўся гэты „супергерой-суперзабойца“, каб „страснуць“ амерыканскіх маладых людзей, ўдыхнуць у іх высокае пачуццё „патрыятызму“. Справа ў тым, што амерыканская ваеншчына ў апошні час сустракаецца з цяжкасцямі ў камплектаванні сваіх армій — наземных, паветраных, марскіх і падводных — з-за яўнага зніжэння інтарэсу амерыканцаў да воінскай службы.

У выніку праведзенага Пентагонам аднаго з апытанняў маладых людзей ва ўзросце ад 16 да 18 гадоў толькі 30 працэнтаў заявілі, што „маглі б паступіць“ на ваенную службу.

„Маладыя амерыканцы баяцца, — падкрэслівае „Дэйлі уорлд“, што іх пашлюць паміраць на Блізкі Усход, у Цэнтральную Амерыку, у Карыбскі басейн, у іншыя раёны зямнога шара“. І баяцца недарэмна. Нядаўна начальнік штаба арміі ЗША генерал Дж. Уікхэм выступіў з праграмай камплектавання так званых „лёгкіх дывізій“, бо, на яго думку, трэба пастаянна быць гатовым да шматлікіх малых войнаў.

У рамках гэтай праграмы Пентагон пачаў і аднаўленне падраздзяленняў „зялёных берэтаў“, у якіх „праслаўляў амерыканскія сцягі“ галівудскі герой Рэмба. Ствараюцца таксама сілы спецыяльнага прызначэння „Дэльта“ і аналагічныя сілы ў ваенна-марскім флоце „Цюлені“. На пытанне карэспандэнта тэлекампаніі Эй-бі-сі, для якой мэты ствараюцца і аднаўляюцца гэтыя атрады спецыяльнага прызначэння, міністр абароны ЗША Каспар Уайнбергер адказаў: „Адметным бокам сіл, пра якія вы ўпамянулі, з'яўляецца іх здольнасць дзейнічаць без лішняга шуму. Яны без лішняга шуму вядуць сваю вучэбную падрыхтоўку, і іх каштоўнасць павышаецца прапарцыянальна таму, наколькі мала пра іх вядома. І я не хачу зніжаць іх каштоўнасць“.

Амерыканская газета „Балтымар сан“ неяк не без іроніі заўважыла, што ў апошні час прэзідэнт займаецца пропаведдзю сваёй сілавой палітыкі на жалобных цырымоніях. Так, 22 чэрвеня мінулага года на пахаванні чатырох амерыканскіх марскіх пехацінцаў, якія загінулі ў Сан-Сальвадоры, Рональд Рэйган сказаў словы, якія абышлі ўсе газеты: „Калі мы некалі і трапім у рай, дык убачым, што вароты яго ахоўваюцца марской пяхотай Злучаных Штатаў“.

Апошняе напамінае аб тым, што ў свой час па патрабаванню члена палаты прадстаўнікоў ад штата Ілінойс Поля Фіндлі спіс усіх загінуўшых у В'етнаме быў цалкам змешчаны на старонках афіцыяльнага выдання „Кангрэшнл рэкорд“. Ён заняў 121 старонку і абышоўся казне больш чым у 10 тысяч долараў. Вашынгтонскія зласловы тады заўважылі, што кожная старонка спісу каштавала столькі ж, колькі і труна для забітага салдата па пентагонаўскаму прэйскураніту — 83 долары.

Р. Г.

**НАШЫ Ў СВЕЦЕ**

# УРАЖАННІ З ІНДЫІ

Самалёт з Масквы ў Калькуту вылецеў уначы. У ім знаходзілася сем пасажыраў з Польшчы, у тым ліку і я. Прыляцелі мы ў Калькуту — пасля пасадкі ў Бамбеі — неяк пад вечар. Розніца з нашым часам — чатыры з паловаю гадзіны. Тэмпература паветра — трыццаць градусаў.

Ужо чакаў мяне прадстаўнік „Электрыма". Мне заказалі нумар у гасцініцы, што ў цэнтры Калькуты. Трэба было ўзяць таксі. Калі мы з прадстаўніком гэтай нашай фірмы выйшлі з аэрапорта, нас адразу абступілі хлапчукі, якія хацелі паднесці нам нашы багажы; яны выхоплівалі іх адзін аднаму з рук, сварыліся між сабою. Кожны з іх хоча зарабіць хоць пару рупіяў (індыйская валюта). Калі я папрасіў аднаго з іх, каб паклікаў мне таксі, дык гэтае таксі з'явілася можа праз якіх дзесяць секунд! Дамовіўся я з таксістам, што заплачу яму пяцьдзесят рупіяў, а ехалі мы ў тую гасцініцу каля пяцідзесяці мінут, праз мноства вуліц і плошчаў гэтага неправдападобна вялізнага горада Індыі. Шафёр безупынна сігналіў, быццам бы быў „хуткай дапамогай". Гэта таму, што тут рух незвычайны, трэба мець вялікі рэфлекс і драцяныя нервы, каб вытрываць у такім вэрхале. Ажно дзіва, што неяк не відаць тут, каб хто каго раз'ехаў або разбіў. Натоўпы народу на вуліцах такія вялікія, што я, хоць пабываў не ў адным сталічным горадзе свету, дык чагосьці такога, гэткага тлуму, яшчэ не бачыў. На тратуарах людзі і сядзяць, гандлююць, жабруюць, гатуюць ежу сабе, а нават і спяць, начуюць. Усё худое, быццам жывыя шкілеты. Поўна крамаў і крамкаў, але кліентаў у іх амаль не відаць.

Назаўтра мы, утраіх, выйшлі ў горад. Гляджу на людзей, сярод якіх нямала і ў добрым адзенні. Усе яны зграбныя, трапіўся мне на вочы толькі адзін жыватач. Дайшлі мы да нейкага рынка, вельмі падобнага на істамбульскі. Вузенькія вулачкі, шырынёю, можа, каля метра. І ўсюды крамы, крамы, крамы, у якіх можна купіць амаль усё. Даволі падыйсці да такое крамы, як адразу абступяць цябе індусы і возьмуцца распытваць, чаго табе трэба, што хочаш ты купіць. Зрэшты, кожны такі індус цягне цябе да сваёй крамкі. За тавар тут трэба заўдла таргавацца, бо іначай можаш заплаціць і ў пяць разоў больш, чымсьці тое купленае сапраўды вартае. За невялічкі скураны партфель запанілі мне каля двухсот рупіяў, а аддалі за семдзесят дзве.

Цікавілі нас, вядома, перш за ўсё цэны. Адзін долар каштуе тут афіцыйна трынаццаць рупіяў, а на чорным рынку — пятнаццаць. За адну пару сандаляў трэба даць 190 рупіяў, за боты — трыста. Шампунь для валасоў каштуе сорак рупіяў, але добрыя сонечныя акуляры купіў я за дванаццаць рупіяў. Трэба вельмі зважаць тут, каб не застацца ў дурнях.

Працую я кіраўніком праектнай групы на будаўніцтве электрастанцыі ў Бакары. Тут нас каля пяцідзесяці спецыялістаў з Польшчы. Побач нас савецкія спецыялісты будуюць вялікі ліцейны завод (гуту). Мы жывем у савецкім пасёлку, у шасціквартэрных дамах. Кожная кватэра — гэта два пакоі, прасторны



калідор, кухня, туалетная з ваннаю. Усе пакоі кліматызаваныя, у такім клімаце еўрапеец не мог бы вытрымаць без кліматызацыі. Паміж будынкамі растуць пальмы, кветкі. На месцы ёсць усё — сталоўка, крамы, пошта, басейны для плавання. Возяць нас на работу і з работы. Ежа бясплатная, мыццё бялізны таксама, і кватэра гэтак жа. Зарабляю я шэсць тысяч дзвесце рупіяў, з якіх прынамсі тры чвэрці ніяма куды аддаць, можна сабе ашчаджаць, колькі захочаш. Але калі запросіш да сябе жонку з дзецьмі, дык тады трэба за іх усё плаціць; такія ўмовы.

**Дзмітры Шатыловіч**
(ганарар на Беларускі музей).

(на Бельск і Беласток) — 2 км, да Цялушак (на Беласток) — 2 км.

Калі б хто з рэдакцыі захацеў пабываць у вёсцы, вельмі сардэчна прашу, заўдзіце. Ехаць з Беластока, выйсці ў Кожыне, а там 2 км пехатой да Козлікаў.

У Козліках ёсць магілы ад шведскай вайны і маленькая царкоўка ў чэсць святыцеля Мікалая з 1793 г. Служба бывае шэсць разоў у год.

Я столькі і радасці маю, што „Ніва".

З паважаннем
**І. Семянюк**

(Працяг са стар. 4)

**ДЗЕ ПРАЎДА?**

Беларуская мова даходзіць да чалавека з радыёпрыёмніка пакуль што вельмі рэдка, усяго раз у тыдзень і то толькі трыццаць мінут. Але хто ведае? Можа ў будучыні актывісты БГКТ „вываююць", каб беларуская мова даходзіла да нас з радыёпрыёмніка штодзённа? А наконт тэлебачання, то трэба спачатку ўвесці беластоцкую праграму, а пасля паволі ўводзіць беларускія перадачы. Добра было б, каб так было. Але ці будзе? Каб да гэтага дайшло, то трэба доўга змагацца актывістам БГКТ. Але не адным актывістам. Тут патрэбна падтрымка ўсіх беларусаў.

Не згаджаюся з поглядам Міхася Махнацкага, „што найгоршую ролю ў ліквідацыі беларускай мовы сыграла тэлебачанне. Улезла ў беларускую хату, і. каб яго зразумець, трэба навучыцца і ягонай мове".

Тэлебачанне тут не прычым. Жывем у Польшчы і нічога дзіўнага, што тэлеперадачы вядуцца на польскай мове. Нічога дзіўнага, што апрача беларускай, трэба ведаць польскую мову. Але колькі было тэлеперадач, ні ў адной не гаварылася аб тым, каб беларусы выракаліся сваёй мовы.

Беларусы арэлігійны і анацыянальны народ. Добра, што не ўсе такія, але вельмі многа ёсць такіх, што як могуць, так асімілююцца. Такія будуць цвярдзіць, што беларуская мова непатрэбная, бо ўсюды трэба карыстацца польскай мовай.

Але ці ж так з роднай мовай і традыцыяй пастулаюць усе нацыі? Некалькі разоў мне давялося чуць, як між сабою размаўлялі гайнаўскія цыганы. Гаварылі яны на сваёй мове. Не значыць гэта, што не гавораць яны па-польску. Толькі не забываюць аб роднай мове. Яны не думаюць, ці гэта мова патрэбная ў штодзённым жыцці, ці не, але яны яе ведаюць, часта на ёй гавораць і дзяцей сваіх гэтай мове вучаць. А многія беларусы выракаюцца сваёй мовы і нацыянальнасці.

Адносна думак. Ад добрых думак ідзе такая цеплыня, што зіма не страшна. Але ад кепскіх думак ідзе холад і то такі, што і лета страшнае. А што датычыць беларускай нацыі ў Польшчы, то думкі ідуць вельмі нецікавыя. Ад іх вее холадам.

**Аўрора**

**БУДЗЕ СПАРТЫЎНАЯ ЗАЛА**

Будзе спартыўная зала ў Пачатковай школе № 3 у Бельску. Ужо год, як у ёй працуе энергічны камітэт пабудовы залы, узначалены Арсенем Артысевічам.

Дапамагаюць „тройцы" розныя ўстановы. Ліцэй імя Бранислава Тарашкевіча перадаў ёй дваццаць тысяч злотых; Бельская малачарня — 80 тыс. зл., Раённая управа унутраных спраў — 30 тыс. зл., Рамесны цэх — 10 тыс. зл. Трэба, каб усе дапамаглі нашай школе ў гэтай вельмі патрэбнай справе. Прыпамінаю банкаўскі рахунак, на які можна ўплачваць грошы: Bielsk Podlaski 5119-1629-132.

**Андрэй Гаўрылюк**

рыял, раскіданы па розных прадметах (біялогія, навука аб грамадстве, тэхніка, абаронная падрыхтоўка, фізкультура і ахова здароўя, гігіена). Ад новага навучальнага года „ахова і фарміраванне асяроддзя" — адзін з новых прадметаў у сярэдняй школе, да выбару вучнямі (як рэлігіязнаўства, сучасная цывілізацыя, філасофія, эканоміка, псіхалогія, педагогіка, якія пашыраюць кругагляд і інтэлект вучняў). Цяпер падрыхтоўваюцца матэрыялы, прыклады, канспекты і ўказанні для настаўнікаў, якія будуць весці ўрокі па ахове асяроддзя. Створаны таксама інстытут, які 3 семестры падрыхтоўвае ў гэтай галіне працуючых настаўнікаў. Элементы навучання павінны больш праграмна праводзіцца ў прэсе. К. Вольфрам у „Кур'еры Падляшскім" разам з А. Казярам многа пісалі аб канцэпцыі „зялёных лёгкіх Польшчы" — канцэпцыі комплекснай аховы нашай тэрыторыі. Гэта маленькі крок да ўсеагульнай адукацыі. Але дзе тут комплекснае навучанне? Біялогіі няма, напрыклад, у мастацкіх ліцэях! Як жа пазнаць і аналізаваць прыроду, чалавека, сваю ролю, як паказаць гэта ў сваёй творчасці? Слаба вядуцца курсы ва універсітэце. А пасля кульгае эстэтыка архітэктуры і будаўніцтва, і з людзьмі, кіруючымі нашай гаспадаркай, нельга знайсці супольнай мовы наконт гаспадаркі рэсурсамі прыроды, бо кіраўнікоў экалагічнаму мысленню не вучылі ў школе. А якія веды, „экалагічная пісьменнасць" пасля прафесіянальнай школы ці тэхнікума, дзе не выкладалі правоў прыроды? Кожны адыход ад праекта, які зробіць чалавек на машыне, якая варочае зямлю (даслоўна і пераносна), кожны лішні грам „угнаення" можа выклікаць неаблічальныя страты.

Доктар Б. Паскробка, наш знаёмы са старонак „Нівы", правёў навуковыя доследы метадам анкеты на тэму „Патрэбы адукацыі ў галіне аховы і фарміравання асяроддзя ў рабочых калектывах". З доследу вынікае, што рабочыя правільна ацэньваюць стан асяроддзя і вынікі занядбанняў, калі датычыць гэта агульнага. Але калі думаюць аб сваім прадпрыемстве — погляды мяняюцца. „Усё ў парадку", — пішуць некаторыя ў анкеце аб выкарыстанні адпадкаў, марнатраўстве і неашчаднасці. Лічаць меншым шкодны ўплыў іх прадпрыемства на асяроддзе, чым па сутнасці ён з'яўляецца. Няма паслядоўнасці і кантролю ў ахове прыроды з боку дырэкцыі і тэхнічнага нагляду. Плацяцца штрафы, але што грошы (супольныя, нашыя!) памогуць на няўхільныя затраты ў нашым супольным багацці, прыродзе? Развіццё здаровай, шчаслівай індывідуальнасці можна бачыць толькі сярод здаровай прыроды.

Што нам астаецца? Разумная апека над усім, што жывое. Дакументацыя таго, што бясследна затрачваецца — у фатаграфіі, фільме, калекцыях мінералаў. (Калі ўрэшце створыцца пастаянная выстаўка фатаграмаў У. Пухальскага?!) І найважнейшае — навучанне будучых вырашальнікаў: архітэктараў, інжынераў, будаўнікоў, землябаў, эканамістаў і планістаў, юрыстаў, а таксама педагогаў, рабочых, тэхнікаў-тэарэтыкаў і практыкаў. Усіх.

**Міра Лукша**

# ДЗВЕРЫ З ГАРАДКА

У сталярні супрасльскай спулдзельні працы ў Гарадку робяць перш за ўсё дзверы і вокны, з тым, што дзвярэй больш. Непасрэдна пры прадукцыі працуе тут дзевятнаццаць чалавек. Найдаўжэй працуюць у сталярні **Тадэвуш Шэранос** (33 гады), **Аркадзь Трахімчык** і **Сяргей Марцінчык.**

Рабочы калектыў кожны год паспяхова выконвае прадукцыйныя планы. Клопаты бываюць толькі са здабываннем драўніны. Паступае яна сюды ажно з аўгустоўскага і голдапскага тартакоў, але не рытмічна і бывае не найлепшай якасці. У мінулым годзе давялося найбольш напружана папрацаваць у чацвёртым квартале, але план быў выкананы. Сёлета павысілі яго з 26 мільёнаў злотых на 30 млн. зл.

Гарадоцкай сталярні вельмі прыдаліся б навейшыя машыны. Куды лепш было б, калі б драўніну прывозілі з бліжэйшых надлясніцтваў — Валілаў або Жэдні. Тады і затраты былі б значна меншыя.

Жыхары бліжэйшых вёсак і з самога Гарадка хацелі б мець больш усялякай мэблі. Сталярскае прадпрыемства ахвотна прымала б заказы, але не мае адпаведнага матэрыялу. I так круг замыкаецца. Тамашнія сталяры зарабляюць у сярэднім каля 20 тысяч злотых у месяц, а маглі б зарабляць куды больш. Новае кіраўніцтва Мэблевай спулдзельні працы ў Супраслі павінна больш клапаціцца пра сваё прадпрыемства ў Гарадку. Зрэшты, адзінае ў так званым тэрэне. **(яц)**

## НАЙЛЕПШЫЯ

У **Бельскай гміне** 2950 гаспадарак. Аднак сярод іх асабліва вылучаюцца наступныя гаспадары: **Павел Лазовік з** вёскі **Сакі, Уладзімір Міхальчук** з **Кожына** і **Станіслаў Кажушкевіч** з **Серакавізны.**

Павел Лазовік гадуе вялікае стада пародзістых авечак. Гаспадарыць ён на 40 гектарах зямельных угоддзяў. Удаюцца ў яго збожжавыя культуры і бульба. Ён з'яўляецца сакратаром вясковай партарганізацыі.

Уладзімір Міхальчук спецыялізуецца ў гадоўлі свіней. Мае іх звыш сотні. Ён механізаваў вялікі хлеў, пабудаваў сушыльню збожжа і збожжасіласы. У яго таксама амаль 40-гектаровая гаспадарка.

Станіслаў Кажушкевіч завёў дваццаць штук быдла, гэта ў асноўным высокамалочныя каровы. Усе яны нізіннай чорна-белай пароды. Спомнены гаспадар намераны павялічыць сваю семнаццацігектаровую гаспадарку.

(яц)

## РЫБАЛОВЫ

Актыўна дзейнічае 120-асабовы гурток Польскага саюза рыбаловаў (ПЗВ) **у Нараўцы.** Належаць да яго рыбаловы з Нараўкі, Гарадзіска, Міклашэва, Ляўкова, Ахрымаў, Тарнопаля і Гарадзіска. Ловяць яны рыбу ў рэках Нарве і Нараўцы, а таксама ва ўсіх іх прытоках.

Праўленне нараўчанскага гуртка ПЗВ: **Аляксандр Валонцей** (старшыня), **Чэслаў Дамброўскі** (сакратар) і **Павел Бортнік** (скарбнік) падпісалі пагадненне з кіраўніцтвам ляўкоўскай керамічнай фабрыкі адносна загаспадарання і выкарыстоўвання вадасховішчаў, якія ўтварыліся на месцы былых капальняў гліны. Тры гады таму назад у так званыя глінянкі ўпусцілі 150 кілаграмаў малых рыбак — карпікаў. З малых выраслі ўжо ладныя карпы і сёлета можна будзе лавіць іх на вуду. Апрача таго, 50 кілаграмаў нарыбку ўпусцілі ў рэчку Нараўку. (яц)

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

*Bielsk Podl. 1986.04.25. Rejon Dróg Publicznych w Bielsku Podlaskim w odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Niawykananyja pastułaty" zamieszczoną w nr 1559 z dnia 30 marca br. uprzejmie informuje, że na skrzyżowaniu ulicy wiejskiej we wsi Piaski z drogą Hajnówka-Wojnówka został ustawiony znak ostrzegawczy A—7 „Ustąp pierwszeństwa przejazdu" zamiast postulowanego znaku ograniczającego szybkość do 40 km/godz., co jest zgodne z przepisami o ruchu drogowym. Jednocześnie nadmienia się, że wieś Piaski posiada nawierzchnię bitumiczną i brukowcową, natomiast wylot w kierunku wsi Witowo jest o nawierzchni żwirowej i sprawa ewentualnego zapylenia i obniżenia zdrowotności wody pitnej dotyczy tylko jednego gospodarza, który mieszka przy tej drodze.*

*Z-ca Dyrektora*
*Rejonu Dróg Publicznych*
*inż. Mikołaj Minkiewicz*

**Ад рэд.** Інжынер Мікалай Мінкевіч пераконвае нас у тым, што брукаваная вуліца не пыліць, калі імчыць па ёй грузавік ці нейкі „фіят". І, на думку інжынера, адзін гаспадар — гэта глупства, можа ён піць і брудную ваду, хоць няма ўпэўненасці, ці ва ўсіх Пясках яна чыстая. Чаму ж інжынер Мінкевіч не звернецца за экспертызай у „санэпід?" А ці не прасцей проста паклaсці асфальт і на тым кавалку „вылёту" дарогі? Ён жа ўзначальвае дарожнае прадпрыемства і яму належыць рашэнне...

## УХАБІНЫ

Небяспечна ездзіць сёлетняй вясной на некаторых галоўных і іншых беластоцкіх вуліцах: Новаваршаўскай, Цыялкоўскага, Звежынецкай і Каперніка, а таксама шашой у Старасельцы. На гэтых рухлівых артэрыях утварыліся пераломы або інакш глыбокія ўхабіны. Цяпер неабходна іх як найхутчэй ліквідаваць. Менш прадбачлівыя і неасцярожныя вадзіцелі аўтамашын на ўхабінах ломяць рэсоры. **(яц)**



**Уладзімір Наўмюк. Палудзень у полі. Разьба па дрэву. Фота М. Гайдука.**




### МАЛЕНЬКАЯ МАЯ СТАРОНКА

За няцэлы два кілё фасолі
Я праеду цябе з краю ў край,
Ты пясчаная наша зямелька —
Я люблю цябе — ты гэта знай.

І старыя пахілыя хаты,
І бярозаньку белу ў гаю,
Грушку-дзічку на межы
травястай
Як сястрычку сваю я люблю.

І дубочак стары векавечны —
Ён далёка галлё разлажыў,
І калі б ён ўсё мог —
расказаў бы,
Колькі войнаў ён тут перажыў.

Ты расці, мой дубочак, мой
мілы,
Ты расці не адзін яшчэ век!
Ты маліся, дубочак, да Бога,
Каб вайны больш не знаў
чалавек.

**Надзя**

так, што пасля вяртання з Англіі адабралі ў нас усялякія дакументы, толькі адны памятныя медалі і крыжы пакінулі... Заўсёды чалавек быў чужы, хаця і жыў сярод сваіх, — неяк цяжка ўздыхнуў дзядуля. — Я вось наконт інвалідскай ваеннай рэнты колькі год ужо стараюся, на камісіях розных быў, а яны мне — дулю пад нос! За кроў маю, за бадзянне па чужых землях...

Расхвалявaўся дзядуля. І мне стала сумна, і я не смеў падганяць яго сваімі пытаннямі. Калі на яго твары высахлі набалелыя слёзы, я асмеліўся адазвацца:

— Трэба цешыцца, што жывым вы вярнуліся з гэтай лютай вайны, вось сям'ю завялі, дзяцей у свет пусцілі, унукаў гадуеце і за хлебам да суседзяў не ходзіце, бо свайго хапае...

— Так, праўду ты кажаш, — уздыхнуўшы згадзіўся са мною дзядуля. — Але ж змагаліся мы за свабоду і справядлівасць і многія з нас галовы свае паклалі ў гэтым змаганні, як, для прыкладу, Міхась Пура, мой найлепшы сябра. Ад пачатку трымаліся мы разам. Ён ад Сямяціч, значыць, зямляк... Зараз, як гэта вёсачка называецца? Па-нашаму тут кажуць, што гэта Суміпічына, а па-афіцыйнаму, здаецца, што Сычы. Там чыгуначны прыпынак. Адтуль быў гэты Пура Міхал... О, прыпомніў! — раптам ускрікнуў дзядуля. — Былі яшчэ дваюрадныя браты Лазэцкія. Абодва Аляксандры. Таксама з гэтых жа старонак. Адзін з іх служыў у пяхоце, а другі быў лётчыкам. Гэты перажыў, абсталяваўся ў Англіі. Вялікі там пан зрабіўся. А можа толькі выдаецца за такога? У мінулым годзе прыязджаў сюды на пабыўку. Наведаў і мяне...

Я прыкмеціў, што ў дзядулі Івана зноў нарастае шкоднае яму хваляванне, дык хутка паспрабаваў пераставіць яго думкі на іншы шлях.

— Вы гаварылі пра свайго сябра Міхаіла Пуру з Сычоў.

— Загінуў, — коратка адказаў дзядуля і хутка папрасіў адзначыць, што яшчэ разам з ім быў адзін чалавек з пасёлка Кляшчэлі. Яго прозвішча, здаецца, Глацкі. Служыў у артылерыі. І яшчэ Антон Сламчынскі з Сямяціч, маладзенькі плютановы, камандзір узвода, у якім служыў Іван Бартнічук...

Я скрупулёзна ўсё запісваў, не прызнаючыся стараму ветэрану, што сам ад сябе мог бы папаўняць ды папаўняць гэты пералік нашых землякоў, якіх лёс загнаў на чужую зямлю, каб служыць сярод чужых, хаця яны і былі сваімі. Вось, для прыкладу, Юрка Налівайка, які жыве на хутары за станцыяй Валілы, вядомы спявак і ўдзельнік мастацкай самадзейнасці ды грамадскі дзеяч, член Галоўнага праўлення арганізацыі ветэранаў ЗБоВіД. У армію Андэрса трапіў 18-гадовым юнаком. Служыў спярша ў пяхоце, а пасля быў зенітчыкам, у супрацьпаветранай абароне.

Мікалай Мілеўскі з Беластока праездзіў вайну на гарматных цягачах. Быў і пад Монтэ-Касіна, дзе атрымаў цяжкае раненне.

Кастусь Шыманюк з Семяноўкі служыў санітарам яшчэ ў час прызыўной службы да 1939 года. А калі зноў давялося яму апрануць салдацкі мундзір, дык вандраваў з санітарнай сумкай, пазначанай чырвоным крыжам, ад Ломжы, цераз Бузулук у Расіі, у Іран і па італьянскіх горных хрыбтах.

Сяргей Кубаеўскі з Орлі, таксама як і Ян Бартнічук з Мілейчыц, быў сапёрам і таксама служыў у гэтай жа 5 Крэсавай пяхотнай дывізіі. Аж дзіва, што яны не сустрэліся і не пазнаёміліся, бо сярод чужых сво" свайго чуе на адлегласць...

— А... гэтага Пуру, значыць, майго сябра Мішку, — цяжкавата ўздыхнуў Іван Бартнічук, — дык загубіў той жа капітан Крык. Аднойчы, ужо пасля бітвы за Монтэ-Касіна, вызначыў яго на патруль, бо ведаў, гадзюка, што дарога будзе вельмі небяспечная. Трэба было адвезці нейкага афіцэра. Мішка шафёрам не быў, але на „Вілліс" ганяўся, як д'ябал на хвасце. Дык загадаў яму капітан Крык, каб узяў „Вілліса" і даставіў пад абстрэлам кудысьці нейкага афіцэра. А тут нямецкі мінамётны снарад зверху — як не гакне, дык і накрыліся... Збіраць не было чаго...

Зноў няпрошаная слязінка паявілася ў старэчых змучаных вачах. І я рашыў далейшы ягоны расказ адкласці да наступнага разу.

**Віктар Рудчык**

## ЗЯЛЁНАЯ КАСМЕТЫКА

Калі ў вас вельмі тлустыя валасы, якія хутка забруджваюцца, ёсць перхаць (лупеж), валасы выпадаюць, становяцца рэдкімі, паспрабуйце выкарыстаць адзін з наступных адвараў:

Заліце сталовую лыжку дробна нарэзанага палявога хвашчу і сталовую лыжку плюшчу 2 шклянкамі вару, давядзіце да кіпення, астудзіце і працадзіце. Уцірайце адвар у скуру галавы праз дзень перад сном.

Такім жа чынам прыгатуйце адвар з каранёў ажыны (ежын), заліце іх 0,5 л сталовага воцату, шклянкай гарэлкі і шклянкай вады, паварыце хвілін 30, астудзіце і працадзіце. Уцірайце адвар штодзень у скуру галавы.

Пры вельмі сухіх валасах дапамагае настой: дробна нарэжце карані дзядоўніку (лопуху), заліце іх алеем у суадносінах 1:1 і настойвайце на працягу 15 дзён. Уцірайце настой у скуру галавы 1-2 разы на тыдзень.

Сухія і нармальныя валасы пасля мыцця добра апаласкаць ліпавым настоем: заліце жменьку ліпавага цвету 2 літрамі гарачай вады, накрыйце посуд накрыўкай і пакіньце на 40 хвілін, пасля працадзіце.

Твар таксама карысна мыць (асабліва ўлетку) вадой, змешанай з настоем ліпавага цвету і зялёнага лісця маліны (па сталовай лыжцы ліпавага цвету і лісця маліны на шклянку вару). Пасля мыцця на яшчэ вільготную скуру накладвайце крэм.

Вельмі сухую скуру змазвайце час ад часу масленым настоем: заліце святаяннік (дзюравец) аліўкавым алеем у суадносінах 1:2, пераліце ў бутэльку і, шчыльна закрыўшы яе, настойвайце на працягу 3 тыдняў.

Спрыяльная для твару маска, прыгатаваная з роўных частак дробна нарэзанага свежага або сухога лісця маліны, ажыны, каліны і падбелу, сталовай лыжкі аўсяных камякоў (платкаў) і невялікай колькасці цёплай вады. Перад тым, як накласці маску, змажце твар вельмі тлустым крэмам. Патрымайце маску 10-15 хвілін, затым змыйце спачатку цёплай, а потым халоднай вадою.

Ванны з адвару, прыгатаванага з бярозавага лісця, палявога хвашчу і дубовай кары — цудоўны сродак супроць патлівасці ног.

Для знішчэння барадавак змазвайце іх 4-5 разоў на дзень свежым сокам сцябла дзьмухаўца, толькі што разрэзанай маладой бульбы або часнаку. Народная медыцына раіць накладваць на барадаўкі печаную цыбулю.

## МАРШЧЫНКІ ВАКОЛ ВАЧЭЙ

Маршчыны ў людзей ва ўзросце 25-30 гадоў — сведчанне не пачатку старэння, а хутчэй за ўсё дрэннага догляду за тварам.

Як вядома, скура твару, асабліва вакол вачэй, вельмі рухомая, далікатная, тонкая. Аднак многія блізарукія дзяўчаты і маладыя жанчыны іншы раз самохоцца насіць акуляры, ім даводзіцца жмурыцца, у выніку чаго ў куточках вачэй узнікаюць тонкія маршчынкі — „лапкі“. Чытаючы без акуляраў або лежачы ў ложку да таго ж пры недастатковым асвятленні або наадварот, пад яркімі сонечнымі праменнямі, вы таксама садзейнічаеце заўчаснаму з'яўленню маршчын вакол вачэй.

Прывычка грымасіць, празмерная міміка пры размове, пры смеху выклікае з'яўленне так званых мімічных маршчын.

Хачу папярэдзіць аматарак касметыкі: асцярожна і не звыжды карыстайцеся тушшу для веек, алоўкам для павек або „ценямі“. Не варта таксама энергічна выціраць твар грубым махровым ручніком, лепш прамакаць яго мяккім льняным або сурвэткай.

Для прафілактыкі маршчын вакол вачэй рэкамендуецца спецыяльны крэм для павек. На вільготны тампон выцісніце крыху крэму і лёгкімі дотыкамі намажце на верхнія павекі ў напрамку ад носа да вонкавага кутка вачэй, на ніжнія — ад кутка вачэй да носа.

**Практычная**




Дарагое Сэрцайка! Не ўяўляю сабе, як можна звязаць свой лёс з дзяўчынай, якая здрадзіла, не будучы яшчэ нават жонкай. Калі яна ўжо цяпер робіць такія фокусы, то што будзе пасля, калі прывыкне да мужа і пэўныя справы стануць для яе паўсядзённымі?..

Калі ты, Грыша, ведаеш ужо, што за дзяўчына гэтая твая Валя, дык нашто траціць на яе дарма час?.. Кінь ты яе і нават у той бок не глянь! Што гэта здрадніца так табе свет завязала, што іншых не бачыш? Мала то на свеце дзяўчат прыгожых ходзіць, ды і свабодных яшчэ — адбівацъ іх ні ў каго не трэба! Ды і наўжо ты ўжо найгоршы хлопец сярод дрэнных, што да адной гэтак прычапіўся?

Кінь дзяўчыну і забудзься пра яе назаўсёды, а калі ў вас дзяўчат мала, дык прыязджай да нас, на Бельшчыну: мы цябе і пасватаем, і вяселле згуляць паможам! Зычу табе ўсяго найлепшага і не хвалюйся: з Валі добрай жонкі і так не было б.

**Валодзя**

Валодзя! Ты забываешся пра адну небанальную справу: пра каханне, пра пачуцці. Пачуцці ў тваім выказванні недзе загубіліся, як бы яны і не былі першапланавымі ў сардэчных справах.

Не ўзяў ты пад увагу, Валодзя, і другой справы: што Валя сказала Грышы пра сваю здраду сама. Ніхто яе да гэтага не прымушаў і ніхто Грышы на яе не данасіў. Проста, калі б мені яе мучыла сумленне — магла б яна аб гэтым і не гаварыць. Але ж сумленне яе мучыла, яна гэты факт перажывала, была ў роспачы. І тады расказала пра ўсё свайму хлопцу. Мяркуй, што магла б з яе быць цалкам някепская жонка!

Ёсць таксама і іншая магчымасць. Мо Валя лічыла, што яна ўсё ж яшчэ не Грышава жонка, што яна вольная — і таму менавіта пайшла на здраду. І, можа, не прыйшло б ёй такое ў галаву, калі б была ўжо жонкай Грышы.

Думаю, што ўсё гэта добра ўзважыў Грыша, пакуль сабраўся напісаць пісьмо ў рэдакцыю і папрасіў параіць яму, як вярнуць Валю.

**Сэрцайка**




## ХАЛАДНІКІ

### Халаднік са шчаўя

На кілаграм шчаўя трэба ўзяць 2 свежыя агуркі, 1 яйцо, пучок зялёнай цыбулі, 3 сталовыя лыжкі смятаны, соль.

Шчаўе дакладна перабраць, дробна пасячы, зварыць у пасоленай вадзе і астудзіць. У халоднае шчаўе дадаць дробна нарэзаныя агуркі і крутое яечка, а таксама зялёную цыбульку, расцертую з соллю. Перад падачай на стол халаднік заправіць смятанай.

Вельмі добра было б пасыпаць яшчэ халаднік дробна нарэзаным укропам, а ў талеркі можна яшчэ палажыць палавінкі крутых яечак.

### Халаднік мінскі

На 700 грам шчаўя трэба ўзяць 400 грам буракоў, 2-3 свежыя агуркі, 1 яечка, пучок зялёнай цыбулькі, 2 шклянкі кефіру, 2 сталовыя лыжкі смятаны, 1 сталовую лыжку цукру, укроп, соль.

Перабранае і дробна нарэзанае шчаўе зварыць у пасоленай вадзе, пасля чаго астудзіць. Асобна зварыць цэлыя буракі. Звараныя буракі абабраць і пасячы. У астыўшае шчаўе палажыць дробна нарэзаную і расцертую з соллю і жаўтком зялёную цыбульку, а таксама пасечаныя свежыя агуркі і звараныя буракі. Астуджаны вывар з буракоў працадзіць, уліць яго ў шчаўе. Дадаць таксама пасечаны бялок з яечка, цукар і кефір, збіты венічкам. Гатовы халаднік заправіць смятанай і пасыпаць пасечаным укропам.

## СА СТАРОЙ КУХНІ

### Суп са шчаўя

На кілаграм шчаўя трэба ўзяць 300 г мяса, 2 бульбіны, 1-2 сталовыя лыжкі смятаны, 1 шклянку хлебнай закваскі, зяляніну, соль.

У мясны булён, які яшчэ варыцца, палажыць нарэзаную бульбу і крыху падварыць. Пасля гэтага дадаць добра памытае і нарэзанае шчаўе і хлебную закваску. Гатовы суп пасыпаць пасечанай зяляніпай і уліць смятану.

**Мясны булён робім наступным чынам.** Спачатку варым косці. На паўтары гадзіны перад канцом варкі палажыць мяса, соль і падпечаныя моркву, цыбулю, пятрушку і, калі хто хоча, іншыя прыправы. Гатовы булён працадзіць.

**Закваску робім так.** Нарэзаны чэрствы чорны хлеб (75 г) падсушыць у духоўцы, пасля чаго заліць 5 літрамі кіпетню разам са 100 г жытняй мукі. Перамяшаць і пакінуць на суткі. Асобна развесці цёплай вадой 50 г жытняй мукі з 15 г дражджэй і таксама пакінуць на суткі. Атрыманую рошчыну ўліць у падрыхтаваную мяшанку, перамяшаць і пакінуць на 2-3 дні. Пасля гэтага працадзіць і перахоўваць у халодным месцы.

### Халаднік

На 300-400 г буракоў трэба ўзяць 1 шклянку хлебнай закваскі, 200 г свежых агуркоў, паўшклянкі смятаны, 2 ячкі, пучок зялёнай цыбулькі, укроп, соль.

Хлебную закваску развесці кіпетнем. Палажыць у яе нарэзаныя саломкай буракі, свежыя агуркі, а таксама дробна пасечаную зялёную цыбульку і укроп, пасля чаго пасаліць. У гатовы халаднік дадаць смятану і палавінкі крутых яечак.

**Гаспадыня**

# СОННІК

21

**Вол** — рэзаць яго — дастатковыя даходы; бачыць яго — шчасце, удача ў гандлі; гнаць яго — клопаты і смуткі; тлусты — блізкае шчасце; худы — дарагавізна, матэрыяльныя цяжкасці; валовае мяса (ялавічына) — добрыя адносіны з людзьмі.

**Волава** — шчасце ў сям'і; куль з яго — добрыя звесткі.

**Волат** (сілач) — добрыя навіны.

**Вольнасць** — іншы погляд у важнай справе.

**Вольным** быць — не паддайся на хітрыкі.

**Воплескі** — ганарлівасць задаволеная.

**Воск** — прастуда; тапіць яго — страта; жоўты — падманваць самога сябе; белы — здароўе; мяць — добры муж (жонка); васковыя свечкі — сямейная ўрачыстасць; фігуры з воску — нудная кампанія; васкаваць штонебудзь — будзеш падабацца людзям.

**Воспа** — дабрадзейства; мець яе — багацце.

**Востраў** — вяртанне з чужыны; зялёны — блізкае шчасце; адзінокі — цябе пакінуць сябры; быць на ім — знойдзеш шчасце.

**Восці** — благая будучыня.

**Вось** — добры занятак, мерапрыемства.

**Вотруб'е** — добрая гаспадарка, заробак.

**Воўна** — дабрабыт; купляць — новае прадпрыемства, больш даходная работа; ваўняная адзежа — рабіць дабрадзействы.

**Воцат** — хвараўвітасць; піць — расчараванне; разліць — да цябе аднясуцца незычліва.

**Вочы** — блакітныя — гарачае каханне; цёмныя — вясёлая звестка; блізарукія — страты ва ўсім; касыя — панізэнне самога сябе; гноіцца — благая будучыня; страта вачэй — нязздзейсненыя надзеі, страта прыяцеляў, разлад у каханні; апушчаныя — гарачае і патаемнае каханне.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




26 мая ўсе дзеці ў Польшчы адзначаюць Дзень Маці. Прапануем вам у гэты дзень уручыць мамам свежыя кветкі, скласці пажаданні і пастарацца, каб гэты дзень быў для вашай мамы сапраўды святочным. Да ўсяго гэтага прапануем таксама размаляваць каляровымі алоўкамі нашу паштоўку і таксама ўручыць маме. Памятайце, што ўсе вашыя віншаванні толькі тады маюць сэнс, калі мама ваша не зазнае ад вас прыкрасцей, калі вы яе шануеце і стараецеся ва ўсім быць у яе першымі памочнікамі.

надвячоркам
І ранічкай ціхенька
эбудзяць.

**Таня Бібіла, вуч 8 кл.**
**Гудзевіцкая школа**

## Матуліна мова

О матуліна мова, —
Наша радасць і спеў!
Дзе знайсці тыя словы —
Расказаць пра цябе?

Як жаўрук той у небе,
Будзіш песняй наўколле,
Як зярняты у глебе,
Любіш сонца і волю.

Ты звініш ручаёчкам,
Дзіва-песню співаеш,
То шапочаш лісточкам,
Дні тугі ўспамінаеш.

Ты ўсю мудрасць народа
Ў сябе чуйна ўвабрала.
Усе песні і казкі
Разам з ім ты спявала.

Ты, матуліна мова, —
Наша доля і шчасце.
Твае кожнае слова —
Скарб чароўны, багацце.

Дык спявай, дарагая,
Пра сыноў Беларусі,
Пра жыццё свайго краю,
Дзе шчаслівыя людзі!

**Света Раманава, 8 кл.**
**Покацкая школа.**

## МАМА

У мамы блакітныя вочы.
Ласкава пралескамі ззяюць,
Глядзяць на мяне ўдзень
і ўночы,
Трывогу і сум адганяюць.

На твары зычлівая ўсмешка,
Ніколі яна не астыне,
І чулая маміна ласка
Ніколі мяне не пакіне.

А рукі яе залатыя
Абдымуць мяне,
прыгалубяць,
Палашчаць мяне

## Падару маме

Я люблю зялёны луг.
Колькі кветачак наўкруг!
Я нарвала лепшых самых,
Падару букецік маме.

**Лена Дамашук,**
**в. Кудрычы**

У палаце горача і душна, а за акном прыветна свеціць сонейка.

Па шырокіх прыступках лесвіцы Пеця павольна спускаецца ў бальнічны скверык. Тут, на вялікай кветкавай клумбе адразу расцвіло пяць чырвоных макаў — вялікіх, прыгожых, з чорнымі кропкамі ў сярэдзіне.

Хораша ў скверыку гэтай ціхай светлай ранічай. Пеця радасна ўсміхаецца: хутка ён папраўіцца, будзе дома.

Раптам каля Пецевых ног садзіцца маленькая натапыраная птушачка. Хлопчык нахіляецца, працягвае руку. Птушка не ўцякае. „Што з ёю? — думае Пеця. — Відаць, таксама хворая".

Пецю шкада птушкі. Заўтра да яго прыйдзе мама, а хто праведае птушку? Цяжка ўздыхнуўшы, Пеця кладзе птушку на далонь. Ён упершыню бачыць яе так блізка: жоўтая дзюбка і маленькія шэрыя крыльцы. А хваста зусім няма. „Ды гэта ж птушанятка!" — здагадваецца ён. Кволае і бездапаможнае, яно спакойна сядзіць на Пецевай далоні, хістаючыся на тоненькіх ножках.

Пеця азіраецца: дзе ж мама гэтага птушаняці?

— Беднае ты маё! — шкадуе Пеця малога і кладзе яго на лісток падарожніка. — Можа крыху сагрэешся.

Птушаня заплюшчвае вочы „Відаць, і птушкам нешта сніцца, — думае Пеця і ўспамінае, што хутка прыйдзе лекар і трэба вяртацца ў палату. — Куды ж падзець птушаня? У палаце

❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀

**Валянціна Ермакова**

## СТРЫЖАНЯТКА

❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀

трымаць не дазволяць, а яно такое малое! Загіне без ежы".

Птушаня ў руках сагрэлася, і яго шкада было турбаваць.

„Трэба знайсці гняздо", — думае хлопчык. Ён асцярожна садзіць птушаня на спінку лаўкі, а сам ідзе на пошукі.

Раптам птушаня моцна заціўкала: „Ціў, ціў, ціў!", што ў перакладзе з птушынай мовы азначае: „Мама, мама, мама!"

З-за кустоў вылецела шэрая, з доўгімі крыламі птушка. Яна асцярожна наблізілася да лаўкі: „Ці-у, ці-у, ці-у! Дзе ты было?"

Гэта мама-стрыж. Яна зрабіла некалькі кругоў над кветнікам і зноў падляцела да малога. Птушанятка павольна паднялося на тоненькіх ножках і няўпэўнена ўзлецела.

Праўда, адразу ж і апусцілася на зямлю. Мама — да яго. Яна ўвесь час была побач, быццам старалася засланіць стрыжанятка ад Пеці. Лётала над малым. Здавалася, падбадзёрвала яго: не бойся, я з табою, ляці за мной!

Птушаня ўважліва назірала за мамай, потым рашуча паднялося і... паляцела. Хоць і недалёка, да суседніх кустоў акацыі.

Доўга б яшчэ сядзеў Пеця ў скверыку, каб не паклікалі ў палату.

З таго часу хлопчык усё часцей пачаў выходзіць у скверык, дыхаў свежым паветрам, папраўляўся. І кожны раз, назіраючы за птушкамі, стараўся адшукаць сярод іх сваіх старых знаёмцаў — стрыжа-маму і малое стрыжанятка.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Алесь Галуза**

## ДЗЯКУЙ, ВОЛЕЧКА

Волечка вельмі любіць куранятак. Яны вывеліся ў інкубатары і гадуюцца без квактухі. За імі глядзі ды глядзі, а то пагубляюцца ў агародзе. Бульбоўнік для іх — цёмны лес. Бо ў іх няма ні дарог, ні палянак. Адны толькі барозны. Па іх нялёгка малым бегаць. Добра, што навучыліся чуць Волечку. Як толькі пакліча: „Ціп-ціп-ціп" адразу ж бягуць на голас.

Аднойчы дзяўчынка сядзела на зэдліку ў двары, даставала з конаўкі проса і сыпала куранятам. Яны тоненька ціўкалі, быццам дзякавалі Волечцы.

Падляцеў шэры верабейка і таксама пачаў дзяўбсці крупы. Волечка сярдзіта махнула рукою. Верабейка ўзляцеў на плот, пакрыўджана зіркаў то на дзяўчынку, то на куранятак.

„— Мо і ён расце без мамы, як куранятки", — паспачувала Волечка. І сыпнула жменьку круп верабейку. Той зляцеў на зямлю і пачаў хуценька дзяўбсці. Падбеглі і куранятки. Волечка ўбачыла, што на ўсіх круп мала, і сыпнула яшчэ некалькі жменек проса.

Верабейка першы наздзёбўся, пырхнуў на галінку яблыні і заспяваў:

„Ч-ррр... чып... чып...! Ч-ррр... чып... чып!"

Так верабейка дзякаваў Волечцы за яе дабрату.

**Мікола Чарняўскі**

## На каго сварыўся гром?

На каго
Сварыўся гром?
Можа, на хмурынку,
Што схавала пад крылом
Сонца на хвілінку?

На каго
Сварыўся гром?
На свавольны вецер,
Што прамчаў-прабег віхром,
Наламаўшы вецця?

На каго
Сварыўся гром?
На маланку, можа, —
Як і дзецям,
Ёй з сярпом
Бавіцца нягожа!

На каго
Сварыўся гром,
Аж зямлю хістала?
На мяне
Каб пад дажджом
З лялькай не гуляла?

На каго
Сварыўся гром?
Можа, на матулю,
Што мяне
Загнала ў дом,
Нібы пчолку ў вулей?

На каго ж
Сварыўся гром?

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 25 мая г.г. а 18-ай.

# ВЯНЕ РУТА

Вяне рута ля прысада
Чарнявая дзеўчынонька мне прынада. біс

І не еў бы, і не піў бы —
Да дзяўчыны чарнабрывай паляцеў бы. біс

Паляцеў бы, ды не мушу —
Разлюбіла чарнявая сэрцэ, душу. біс

Ці ты п'яны, ці схмяліўся,
Што ў такую некрасівую ўлюбіўся? біс

Я й не п'яны, не схмяліўся —
У дзявочы чорны вочы я ўлюбіўся. біс

Вяне рута ля прысада —
Чарнявая дзеўчынонька мне прынада. біс

## СПЕКТАКЛЬ З АНТРАКТАМ

Пасля абеду жонка ўпраўлялася з хатнімі справамі, а ён як звычайна спаў. Аднойчы яму прыснілася, што ён у тэатры глядзіць цікавы спектакль... Калі жонка разбудзіла, ён злосна буркнуў:

— Што табе трэба? Я такі цікавы спектакль глядзеў.

— Хацела папрасіць, каб дапамог... — кажа жонка. — Але, калі такая справа, кладзіся зноў, а то спектакль можа скончыцца.

З далёкага мінулага.

— Як скончыцца матрыярхат, ох, і пагуляем!

# НІЎКА



## НЕ ЦЯМІЎ

Суддзя: — Падсудны, якімі меркаваннямі вы кіраваліся, калі на вуліцы чапляліся да гэтай грамадзянкі?

Падсудны: — Грамадзянін суддзя, пра якія меркаванні можна казаць, калі тады я зусім нічога не цяміў.

## ЗАДАВОЛЕНЫ

— Дзед Яўхім! Чаму гэта вы бабулю Яўдоху пакінулі, а з маладою ажаніліся?

— Ды ну яе к чорту — спаць начамі не дае: то кашляе, то храпе, то стогне. А маладая — зусім іншая справа! Звечара як выпрыхне з хаты, то аж раніцай прыбяжыць.

## АСАБЛІВАСЦЬ

Выкладчык аўташколы пытае адну з курсантак:

— Адкажыце, у чым заключаецца асаблівасць вуліцы з аднабаковым рухам?

— У тым, што ў іншую машыну можна ўрэзацца толькі ззаду...

## ЗАГАДКА

— Ведаеш, што такое сігарэта?

— ?

— Ядавітая палачка з агеньчыкам на адным канцы і самагубцам на другім.

## БЯЗВЫХАДНАЕ СТАНОВІШЧА

— Як сталася, што ты да яе пасватаўся?

— А так: мы сядзелі і гаварылі, урэшце я ўжо не ведаў, пра што яшчэ гаварыць...

Няспынна павышаў кваліфікацыю: здольны, вельмі здольны, здольны на ўсё.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Англічанка пытае сяброўку, што выйшла замуж за шатландца:

— І як твой муж? Ашчадны?

— О, так! Ён сапраўдны шатландзец! Ужо трэці год ухітраецца карыстацца адным і тым жа адрыўным календаром.

*

Дзве бабулі ўпершыню ў жыцці прыйшлі на іпадром. Адна з іх набралася адвагі і паставіла на каня пад нумарам пяць. Конь фінішаваў апошнім.

— Дзякуй Богу! — уздыхнула бабуля. — Што б я рабіла, калі б я яго выйграла?..

*

На цёмнай вуліцы раздаўся голас:

— Рукі ўніз!

— Напэўна, містэр, вы хацелі сказаць — угору?

— Даруйце, пане, я ўжо стары і ўсё блытаю. Праклятты склероз...

## ПАМЯЦЬ

Аб тым, што Ахілес-герой
Быў роўны ўсім багам па сіле
Аб тым, што смела йшоў у бой
Сягоння многія забылі.

Бывае ж, хутка свет забудзе
Пра мужнасць, смеласць, дабрату
І толькі заўжды помніць будзе
Пра ахілесаву пяту.

**Ліяна Даскалава**

З „Весніка Задрыпоніі"

## НАВІНЫ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ

Карова Пегаска дала малако павышанай тлустасці. „Гэтага мы дасягнулі, — сказала ў інтэрв'ю даярка Г. Бычкоўская, — тым, што паілі рэкардсменку малаком 6-працэнтнай тлустасці".

## АБ'ЯВА

У яслі № 87 тэрмінова патрабуюцца на пастаянную працу трэнеры па спартыўнай гімнастыцы, фігурнаму катанню, каратэ, нянькі. Звяртацца кругласутачна.








# Курёзы

## ГІСТОРЫЯ З ГЕАГРАФІЯЙ

Вучням Злучаных Штатаў прывіваюць гордае пачуццё, што яны жывуць у найлепшай краіне свету. Ды вось пры праверцы ведаў старшакласнікаў дванццаць працэнтаў з іх не патрапілі знайсці сваёй краіны на геаграфічнай карце, а яшчэ дваццаць працэнтаў „далучылі" Бразілію да Злучаных Штатаў.

## НУ І НУ!

Па сведчанню газеты „Аль-Ахрам" на кожнага егіпецкага суддзю ў год у сярэднім прыходзіцца аж чатыры тысячы спраў. А паколькі з такой колькасцю справіцца цяжка, то разбор многіх з іх зацягваецца на дзесяткі год. Адна судовая справа ў суддзі Муфіда Абдурахмана працягваецца... 41 год. Паколькі сам ён ужо памёр, справу даводзіць яго сын.

## ПРАДПІСАННЕ

„Грамадзяне, грып заразны. Калі вы захварэеце, падумайце аб тым, хто вас акружае. Чхайце на іх на адлегласці не менш, чым адзін метр".

(З памяткі хворамy грыпам).




Чым больш уласных недахопаў, тым цяжэй убачыць чужыя здабыткі.